Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 30.000 м. п.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 250000 м.п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 45.000 мк., сярод тэксту 35.000 м. і на 4 стр. 30.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 10. Вільня, Нядзеля, 25-га лістапада 1923 г. Год I.

## „За вашу і нашу волю".

З дня на дзень палажэньне нашага народу ў Заходняй Беларусі робіцца больш цяжкім. Беларусу тутака ўжо бадай у даслоўным значэньні гэтага выражэньня „нельга дыхаць". Нас стараюцца або гвалтам прымусіць зрачыся беларускасьці і ўлезьці ў польскую скуру, або—засудзіць на ролю вечных батракоў, цёмных і загнаных, пазбаўленых асьветы, волі, зямлі....

Ды не адны мы знаходзімся ў такім палажэньні. Праўда, некаторыя з „нацыянальных меншасьцяў" Польскае Рэспублікі, як жыды і немцы, эканамічна, арганізацыйна і культурна мацнейшыя за нас, сяк-так даюць сабе раду нават і пры сучасных адносінах да іх польскае ўлады. За тое палажэньне такога-ж пераважна сялянскага, як і мы, украінскага народу, народу рабачаяў-хлебаробаў, нічым ня розьніцца ад нашага.

Ясна, што ў змаганьні за нашае права, за нашую волю, асьвету, нацыянальнасьць і зямлю беларусам і украінцам прыходзіцца йсьці па аднэй дарозе. І ўжо не адзін дзесяток гадоў прайшоў з таго часу, як прабудзіўшыся зо-сну беларусы зьвязаліся братнім саюзам з украінцамі дзеля барацьбы з тым супольным ворагам абодвух гэтых народаў, якім тады зьяўлялася самадзяржаўная Расея. Не адзін дзесятак гадоў беларусы і украінцы ў кожнай патрэбе стараліся адны адных падтрымліваць, адны адным памагаць. Нават у далёкай Амэрыцы, дзе сёлета беларусы пачалі гуртаваць свае эміграцкія сілы, завязаны і змацаваны доўгімі гадамі супольнае няволі і барацьбы за вызваленьне беларуска-украінскі саюз выявіўся вельмі ярка ў тэй маральнай і часта матэрыяльнай дапамозе, з якой так ахвотна пасьпяшылі украінскія эмігранты беларускім.

Як вядома, так званы „блёк нацыянальных меншасьцяў", што дапамог усім меншасьцям Польшчы дайсьці бліскучае перамогі на апошніх выбарах у Сойм і Сэнат, распачаўся і разьвіўся на грунце пачатковага беларуска-украінскага аб'яднаньня.

Ізноў-жа на соймавым грунце на кожным кроку выяўляецца беларуска-украінская еднасьць. У кожным нашым выступленьні мы сустракаем падтрыманьне з боку паслоў-украінцаў, і беларускія паслы ў свой чарод адказваюць братом-украінцам тым-жа.

„Блёк нацыянальных меншасьцяў", створаны дзеля правядзеньня выбарнае кампаніі, распаўся з канцом выбараў. Але беларуска-украінскі саюз перайшоў і ў сойм: ідэйная сувязь, пачуцьцё супольнасьці інтарэсаў беларускіх і украінскіх працоўных масаў аказаліся мацнейшымі за якія-хоч папяровыя умовы.

Паводле азначэньня аднае польскае эндэцкае газэты, барацьба нацыяналістычнае рэакцыі ў Польшчы з усімі тымі, хто ня хоча ёй пакарыцца, дайшла да „кульмінацыйнага пункту". І запраўды: прынамсі ў адносінах да нас, беларусоў, вычэрпываюцца ўсе „парлямантарныя скарпіоны", пачынаючы ад лiквiдацыі беларускіх пачаткавых школ, паходу проці беларускіх гімназіяў, аддачы беларускае зямлі польскім „асаднікам" і канчаючы замахам на самую беларускую культуру, аб якім мы пісалі ў № 8 „Змаганьня". Але беларусы не паддаюцца. І вось, калі нацыяналістычная рэакцыя зломіць аканчальна ўсялякі адпор з боку польскіх працоўных масаў, трэба будзе і нам ждаць новых „скарпіонаў", — раўнуючы да папярэдніх, ужо зусім „непарлямантарных".

Шчыра жадаючы польскаму працоўнаму народу выйсьці пераможцам з гэтага змаганьня, мы ў нашай рэальнай працы павінны ў гэты мамэнт асабліва цесна аб'яднаць нашы сілы з тымі, для каго змаганьне за свой нацыянальны быт пад уладай Польшчы ня скончыцца ні ў прыпадку перамогі „правіцы", ні ў прыпадку здабыцьця ўлады „лявіцай", ужо добра нам знаёмай з мінулых лет яе панаваньня. Мы маем на думцы яшчэ больш цеснае, больш моцнае аб'яднаньне беларускага і украінскага народаў — у першы чарод дарогай конфэдэрацыі нашых выбарных прадстаўніцтваў: беларускага і украінскага пасольскіх Клюбаў,—што будзе наагул сымвалам еднасьці нашых народаў.

Час ня жджэ: раз самі эндэкі прызнаюць, што барацьба польскае рэакцыі і нацыялізму з польскімі працоўнымі масамі і з „нацыянальнымі меншасьцямі" дайшла да „кульмінацыйнага пункту", — значыць, і нам гэтага мамэнту прапусьціць нельга.

Мы пераканаты, што ўсё беларускае і ўсё украінскае арганізаванае грамадзянства, сьвядомае важнасьці справы і супольнасьці беларуска-украінскіх інтарэсаў наагул, а ў межах Польшчы — асабліва, шчыра прывітае думку цясьнейшага зьбліжэньня нашых пасольскіх клюбаў. Мы пераканаты, што толькі на грунце беларуска-украінскага аб'яднаньня атрымае новы сэнс і апраўданьне той баявы кліч польскае дэмакратыі: „за вашу і нашу волю", які быў так аблыжна ўжыты і абяздэнены павадыром гэтае дэмакратыі, Язэпам Пілсудскім.

## Беларуская школьная справа.

(Глядзі № 6 „Змаганьня").

Як мы казалі раней, беларускія пачатковыя школы ў Сьвянцянскім і Вялейскім паветах прадстаўляюць сабою надта нуднае зьявішча. Беларуская Цантральная Школьная Рада ня мае законнага права з польскага пункту гледжаньня наглядаць за гэтымі школамі, бо паскольку яны лічацца ўрадовымі, дык гаспадаром іх і наглядчыкам зьяўляецца польская школьная ўлада ў асобе павятовага інспэктара. Значыцца, самае істнаваньне гэтых школ, сыстэма выкладаньня, навуковы плян, школьнае жыцьцё, а таксама розныя экспэрымэнты ў справе выкладовай мовы,—усё гэта залежыць ад пэўных распараджэньняў вышэйшай школьнай ўлады ды ня ў меншай меры ад ласкі і няласкі павятовага польскага школьнага інспэктара.

Калі ня гледзячы на ўсе перашкоды з боку адміністрацыі ў скліканьні сялянскага сходу для ўлажэньня прыгавару аб адчыненьні беларускае школы, калі ня гледзячы на ўсе мытарствы вучыцеля, перш чым ён мог дабіцца зацьверджаньня яго на пасаду вучыцеля беларускае пачатковае школы—ўсё ж такі ўдалося дабіцца адчыненьня школы, дык ня можна думаць, што школа будзе ўжо жыць, як чыста беларуская школа. Не. Спачатку прапанавалася выкладаць у гэтых беларускіх школах польскую мову, як прадмет, па аднэй гадзіне ў дзень у кожным аддзеле, пачынаючы з другога, а пасьля дайшло і да таго, што вучыцель, ня маючы падтрыманьня і належнай абароны сябе і сваей школы з боку Ц. Б. Шк. Рады, прымушаны быў увесьці выкладаньне польскай мовы і ў першы аддзел сваей школы. Далей заведзена было выкладаньне ў польскай-жа мове гісторыі і географіі Польшчы. У апошні час да гэтага далучана было выкладаньне і прыродазнаўства ў польскай мове. Што-ж тады, спытаемся мы, застаецца на навуку ў беларускай мове ў гэтых беларускіх школах? Толькі два прадметы—сама беларуская мова ды арытмэтыка, а ўся рэшта прадметаў пачатковага навучаньня — прыродазнаўства, польская мова, гісторыя і географія выкладацца павінна папольску.

Як бачым мы з усяго вышэй паданага, беларуская пачатковая школа, носячы гэткі прыемны для нас назоў, мае ў сабе, дзякуючы польскай школьнай палітыцы, надта мала беларускага ў сучасны момант.

Самая лічба 44 ёсьць значна павялічаная, бо на самым дзеле беларускіх школаў ёсьць меньш. Ведаем мы добра, што з тае лічбы некаторыя беларускія школы пад рэпрэсіяй інспэктароў сталіся перароблены на польскія. Гэтак ў в. Міхневічы, в. Вётхава, Зарузічах, Беніцкае гміны, Ашмянскага павету былыя там беларускія школы перароблены на польскія; у другіх мяйсцох адбылося тое-ж самае.

У апошні час выплываюць наверх новыя перашкоды для істнаваньня беларускае школы. Дагэтуль, як мы ведаем, было ў Жосьненскай гміне, Дунілавецкага павету шэсьць беларускіх пачатковых школ. Завялікай паказалася, мусіць, польскаму інспэктару гэткая лічба школ. Заклікае ён да сябе па адным вучыцялёў гэных школ і... патрабуе прадставіць яму зацьверджаныя праз Міністэрства Асьветы праграмы. Вучыцялі ня ведаюць, што адказаць грознаму ўрадоўцу; тлумачаць, што школы істнуюць дужа часу, адчынены былі яны са згоды інспэктара і пры спаўненьні ўсіх праўных вымаганьняў, што адбывалася не адзін раз візытацыя іхніх школ, што—ўрэшце—праграма выкладаньня ўсіх прадметаў навукі ў школе зусім адпавядаець праграме публічных школ — „powszechnych". Інспэктар, не зважаючы на ўсё гэта, зазначае, што школы гэтыя будуць зачынены, калі вучыцялі не прадставяць зацьверджанай Міністэрствам праграмы белар. пачатковае шкокы, альбо будуць яны істнаваць і надалей, калі выкладаньне ў іх будзе адбывацца па праграмах polskich szkół powszechnych бяз жадных выняткаў, гэта значыць—усе прадметы папольску, а для беларускай мовы, як неабавязковай—подлуг інспэктарскае думкі—могуць быць толькі гадзіны навукі надлічбовыя.

Гэты паход проці беларускае школы вядзець да поўнага яе зьніштажэньня. Што тут? Загады зьверху—пытаемся мы—ці самаволя інспэктара? Аканчальная форма праводжаньня сыстэмы палёнізацыі нашых дзяцей, ці мэты ашчаднасьці скарбу, у ахвяру якой прыносяцца перш-наперш беларускія школы?

Відаць з усяго, што сучасная школьная польская ўлада ня толькі ня мае на мэце адчыняць беларускія школы, ня гледзячы на прагненьне да гэтага нашае люднасьці, але намагаецца ўсякімі спосабамі зьліквідаваць і тыя, якія засталіся да гэтага часу.

**Баўтручонак.**

(Працяг будзе).

## „Ні мост, ні бар'ер".

27/X—5/XI адбыліся ў Варшаве вельмі цікавыя перагаворы паміж віцэ-міністрам загр. спраў Сэйдай і спэцыяльна прыбыўшым у Польшчу паўнамоцнікам Радавых Рэспублік Коппам.

Як далажыў п. Сэйда на паседжаньні кам. загр. спраў у Сойме 16/XI, „п. Копп у такі спосаб азначыў мэту свайго прыезду: зпаміж незрэалізаваных пастановаў Рыскага Трактату трэба-б зьмясьціць у тымчасовы дагавор гэткія пытаньні:

1) Агульныя падставы гандлёвага дагавору;

2) дакладнае фармуляваньне пытаньня аб транзыце, які забясьпечаны арт. 22 Трактату;

3) плян разьмераў і срокаў заплаты 30 мільёнаў рубл. золат., якія С.С.Р.Р. павінен заплаціць Польшчы;

4) выпаўненьне разьмену асобаў, якімі зацікаўлены абодва ўрады, прычым урад С.С.Р.Р. гатоў прыняць польскі сьпісак ксяндзоў...

Як хутка высьветлілася з перагавораў, уся рэшта пунктаў, апрача галоўнага п. 2, былі, так сказаць, прыемным, будзячым у Польшчы апэтыт „гарнірам“ (прысмакам) да галоўна цікавіўшага п. Коппа *пытаньня аб транзыце...*

П. Копп, як казаў п. Сэйда дамагаўся ад польскага ўраду *скасаваньня праз Польшчу тых абмяжаваньняў вольнасьці транзыту*, якія Трактат ставіць для тавараў нямецкіх і аўстрыяцкіх (п. 3. арт. 22); згаджаючыся аставіць у сіле п. 4 арт. 22—забараняючы транзыт *ваенных матэрыялаў*, п. Копп дамагаўся толькі, каб гэтая забарона ня тлумачылася *залішня шырока*.

П. Сэйда адказаў на гэтыя прапазыцыі і дамаганьні прадстаўніка Радаў, што Польшча згадзілася-б цяпер-жа апрацаваць агульны плян выпаўненьня нявыпаўненага Трактату, гатова прыступіць да апрацаваньня падставаў гандлёвага укладу, згаджаецца зусім з прапазыцыяй Радаў... заплаціць ёй належныя ёй залатыя мільёны і выняніць сваіх ксяндзоў, але што датыча тых абмяжаваньняў для нямецкіх і аўстрыяцкіх тавараў, якія ставіць Рыскі Трактат, дык ён лічыць, што гэтая справа ляжыць больш у вобласьці адносінаў Польшчы *з Нямеччынай і Аўстрыяй*, але ня ёсьць справай толькі польска-савецкай... Усю гэтую справу павінна будзе *пасьля* ўрэгуляваць канфэрэнцыя камунікацыйная.

Што-ж датыча пункту аб тым, каб ня тлумачыць зашмат шырока забароны транзыту ваенных матэрыялаў, дык п. Сэйда лічыць спэцыяльнай агаворкі аб тым *не патрэбнай*, бо Польшча *ня мае намеру пашыраць сьпісак тавараў*, якія п. 4 забараняе, як ваенныя матэрыялы...

Як прызнае сам п. Сэйда, п. Копп вельмі ўпарта дамагаўся, каб як найбольш дакладна і сьцісла былі абгавораны і ўрэгуляваны цяпер-жа ўсе ўзаемныя транзытныя забавязаньні, *нават калі-б „адносіны ў Нямеччыне разьвіліся самым рашучым спосабам“...*

Далей п. Сэйда, як кажа ён сам, прызнаў гэткую „формулу“ п. Коппа *„палітычнай“* і, дзеля таго не адказваючай чыста „эканамічнай фармуле“ самога п. Сэйды і рашуча адкінуў дамаганьне прадстаўніка Радавых Рэспублік...

Здаецца зусім ясна, што вустамі свайго прадстаўніка Польшча рашуча адмовілася „спрэцызаваць“—дакладна фармуляваць цяпер-жа важнейшае пытаньне мірных адносінаў паміж ёю і яе суседзямі, пытаньне якое мае, зразумела, у гэты мамэнт асаблівае значэньне як для С. С. Р. Р., таксама і для Нямеччыны.

Адмовіўшы ў гэтым галоўным, дзеля чаго п. Копп прыехаў у Польшчу п. Сэйда быў вельмі зьдзіўлены, калі апошні неяк адразу ахаладзеў да ўсіх тых іншых пунктаў, якімі ён хацеў „падагрэць“ польскі ўрад, — *нахіліць яго да згоды на шырокую формулу транзыту*, „падкупіўшы“ яго-ж „уласнымі“, але яшчэ ня дадзенымі яму „залатымі мільёнамі“ і ксяндзамі...

Сам п. Сэйда расказаў, што калі ён запытаў п. Коппа, ці ня варта было-б „залатвіць“ іншыя закранутыя апошнім, смачнейшыя ад транзыту „пункты“, дык п. Копп зусім холадна адказаў, што, „з прычыны адпадзеньня гэтага галоўнага пытаньня, *ўсе іншыя справы страцілі для радавага ўраду актуальны характар*“...

Гэта значыць папросту, што няма за што „плаціць“...

---

„Известия“ з свайго боку высьвятляюць справу з радавага пункту гледжаньня ў такі спосаб.

„Радавы ўрад, сочачы разьвіцьцё сярэдняэўрапэйскага крызісу і сымпатызуючы якнайгарачэй работніцкім масам Нямеччыны, адначасна стараецца ўсімі сіламі забясьпечыць ўзаемныя адносіны паміж гаспадарствамі ўсходняе часткі Эўропы ад нячаканых патрасеньняў і тым спосабам мець уплыў на падтрыманьне міру ў цэлай Эўропе. Маючы гэта на мэце, Народны Камісарыят загранічных спраў лічыў карысным злучыць разгляд некаторых спорных пытаньняў польска-савецкіх, датычачых некаторых пунктаў Рыскага Трактату... у зьвязку з стварыўшымся міжнародным палажэньнем—з апрацаваньнем *новых узаемных мірных гарантыяў і ўстанаўленьнем нармальных адносінаў паміж Радамі і Польшчай*“.

У далейшым радавы камунікат сьцьвярджае, што прадстаўнік Польшчы *адмовіўся* ад таго, каб ясна і дакладна, выключаючы ўсялякія непаразуменьні, сфармуляваць абодва высунутыя прадстаўніком Радаў дамаганьні:

1) узаемнага абязацельства *няўменшываньня* ў-ва ўнутраныя справы суседзяў (чытай—Нямеччыны); і

2) яснага і выразнага ўзаемнага абязацельства—*забясьпячэньня таварнага транзыту—незалежна ад унутраных палітычных абставінаў у гаспадарстве, у якое напраўлены экспорт*“...

Прадстаўнік Польшчы на абодва дамаганьні—на месца дакладнай формулы абязацельства,—запрапанаваў *агульную, неакрэсьленую бліжэй* і дзеля таго *невыстарчаючую* формулу у першай справе, якая гаворыць наагул аб „імкненьні да захаваньня міру ў сярэдняй і Усходняй Эўропе“; у другой справе абмяжаваўся *„прызнаньнем транзыту на сталых падставах“...*

Камунікат таксама сьцьвярджае „адмову Польскага Ураду зьмясьціць у пратакол ясна фармуляваныя і бязспрэчныя ўзаемныя абязацельствы падтрыманьні міру і транзыту“...

Дзеля гэтага „Радавы ўрад, у пачуцьці сваей адказнасьці, лічыць немагчымым скрыць сваіх найвялікшых апасеньняў, якія выклікала ў ім гэтая адмова Польскага Ураду“...

Падчырківаючы вялікую важнасьць абодвых спраў для утрыманьня міру у Эўропе і аднаўленьня мірных абменных стасункаў паміж народамі, Радавы ўрад „выражае надзею, што у далейшым Польскі Урад разьвее тыя апасеньні, якія выклікала гэтая няўдаўшаяся спроба прыданьня яго мірным заяўленьням формы дакладна сфармуляванага дакумэнта“... **С.**

(Канец будзе).

---

***Пішыце да нас аб жыцьці-быцьці вёскі, аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Змаганьня“ будзе і яго супрацоунікам.***

---

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

Няздольнасьць польскай буржуазіі справіцца з фінансавым крызісам, застаўляе шукаць усё новых і новых міністраў фінансаў. Гучныя завярэньні ўрадовых партыяў аб хуткім аздараўленьні фінансаў засталіся толькі пустымі словамі. Не памог і Кухарскі, за часоў урадаваньня якога крызіс прыняў яшчэ большыя разьмеры. Цяпер ужо большасьць партыяў, уваходзячых у склад урадовай коаліцыі, як пястоўцы, частка дубадэкай і хадэкаў, выступаюць проціў Кухарскага і дамагаюцца рэконструкцыі габінэту. Упарта за Кухарскім стаяць толькі эндэкі, якія лічаць паражэньне Кухарскага сваім уласным банкроцтвам. Ходзяць чуткі, што на пасаду міністра фінансаў высоўваецца кандыдатура ўжо раз быўшага міністрам фінансаў так сама эндэка Міхальскага. Але зьмена асобаў нічога ня паможа, калі ня будзе ў корані зьменена ўся палітыка, але на гэта буржуазія ня здольна.

А тым часам урадовая большасьць пачынае паважна трашчаць. Сярод прынятых Галоўнай Радай партыі хадэкаў рэзалюцыяў, знаходзім паміж іншым такую: „Галоўная Рада Хрысьціянскай дэмакратыі прыпамінае, што Хрысьціянскі Саюз Народнай Еднасьці (Хьена) быў толькі арганізацыяй на час выбараў, а ў сучасны мамэнт ужо ня істнуе“.

Мышы бягуць з тонучага карабля.

---

„Naprzód“ паведамляе:

„Як мы даведаліся, у апошніх днях прыбыў да Кракава адзін з вышэйшых афіцэраў генаральнага штабу дзеля правядзеньня сьледства з ген. Чыкелем і палк. Бэкерам у справе крывавага аўторку. У ваенным судзе ў Кракаве праслухоўваюцца ўсе жаўнеры, расфармаванага на падставе загаду вайсковых уладаў II батальёну 16 палку пяхоты, якія прымалі ўчасьце ў ваеннай акцыі 6-га лістапада. Бадай усе афіцэры гэтага батальёну арыштованы і праслухоўваюцца сьледавацелем. Апрача гэтых афіцэраў арыштавана шмат афіцэраў іншых палкоў з Кракава і правінцыі“.

---

Сканфіскаваны № 317 „Robotnika“ (орган P.P.S.) за артыкул „P.P.S, і польскае войска“, з якога была зроблена асобная адбітка. Рэдактар вінаваціцца з арт. 129 п. 5 К. К.

## НЯМЕЧЧЫНА.

Канцлер Штрэзэман на паседжаньні нямецкага парлямэнту выступіў з вялікай прамовай аб унутраным і заграпічным палажэньні ў Нямеччыне. Будынак парлямэнту быў заняты паліцыяй. Унутраная сытуацыя—заявіў канцлёр—ёсьць безнадзейная і няма ніякага спосабу да яе паляпшэньня. Няўдача перагавораў з саюзьнікамі пераважна паходзіць дзеля таго, што саюзьнікі ня вераць у маральную і матар'яльную сілу Нямеччыны, у гэтым вінаваты папярэднія ўрады. Беспасрэднай прычынай разрыву перагавораў было тое, што Францыя не згаджаецца залічыць дастаўляемы ёй вугаль на рахунак адшкадаваньняў, а толькі на пакрыцьцё коштаў акупацыі, на што Нямеччына не магла згадзіцца, бо тым самым прызнала-б акупацыю законнай і прыняла-б на сябе новы цяжар, якога не прадбачыць нават Вэрсальскі трактат.

---

# Ад кустарніцтва да мастацкай творчасьці.

(*Навейшы этап разьвіцьця беларускай народнай мэлёдыі*).

Два гады таму назад ў Маскве стварылася Беларуская дзяржаўная тэатральная студыя. Студыйцы будуць служыць асновай навейшага беларускага тэатру. Найлепшыя тэатральныя сілы Масквы зьяўляюцца настаўнікамі студыі.

За гэты час зацікаўленасьць маскоўскіх мастакоў нашым народным мастацтвам павялічылася ў некалькі разоў болей.

Маскоўскія кампазытары зацікавіліся беларускай народнай мэлёдыяй. Вынікам гэтага, як у нашай газэце ўжо ня раз пісалася, зложылася ў Маскве Беларуская Пясьнёвая Камісія. У склад Камісіі ўваходзяць найлепшыя сучасныя маскоўскія кампазытары, як, напрыклад: М. М. Іпалітаў-Іваноў, Я. В. Прохараў, А. А. Аленін, А. В. Нікольскі, С. Л. Талстой, П. М. Сініца, Я. С. Багаценка, Н. В. Пятроў, Е. Л. Лебедзева, В. В. Пляханаў, Г. І. Любачаў, Н. І. Аладаў, Е. М. Бройда (Муз. гісторык з Петраграду), Н. А. Гарбузоў і іншыя.

Мэта Камісіі—лябараторна-высьледчая праца, як перагляд сабраных беларускіх мэлёдыяў да гэтага часу рознымі этнографамі і аматорамі, пераацэнка гарманізаваных друкаваных зборнікаў, якія ўжо ўжываюцца беларускімі хорамі Тэраўскага і Равенскага, таксама зьбіраньне новых мэлёдыяў, складаньне новых зборнікаў і стварэньне мастацкіх беларускіх кампазыцыяў.

Цікава пры гэтым зрабіць маленькі агляд мінулага беларускай песьні (мэлёдыі).

Яшчэ ў 40-ых гадох мінулага веку беларускую мэлёдыю пачалі карыстаць розныя кампазытары нашага краю. Быў напісан нейкім кампазытарам твор з беларускіх мэлёдыяў пад назваю „Літоўская Рапсодыя“, другім кампазытарам была напісана „Дуда зачараваная“ і г. д.

Ужо ў 50-ых гадох польскі кампазытар Манюшка пісаў свае кампазыцыі ў большасьці пад уплывам беларускіх мэлёдыяў. Такім чынам Манюшка, дзякуючы беларускай народнай мэлёдыі, набыў для польскай музычнай скарбніцы багаты ўклад.

Беларусь дала таксама і расейцам знамянітага кампазытара Глінку.

Такі ўжо быў агульны лёс Беларусі: яна гадавала для расейцаў і палякаў вялікіх мастакоў у розных галінах мастацтва і культуры.

Этнографічнымі запісамі нашай песьні займаліся вядомыя этнографы: Шэйн, Раманаў і іншыя. Зінаіда Радчанка, калі ня мыляемся, у канцы мінулага сталецьця выпусьціла невялічкі зборнік беларускіх народных песьняў з Гомельшчыны.

Беларускія песьні выпаўняліся яшчэ да адраджэньня 1905 году рознымі расейскімі сьпявачкамі і хорамі.

З пачатку нашага адраджэньня над беларускай мэлёдыяй пачалі працаваць Грыневіч, які ў кожнае лета разьяжджаў па беларускіх вёсках, запісываў беларускія песьні, складаў з іх зборнікі; цяперашні польскі кампазытар Рагоўскі, які напісаў „Сюіту беларускую“, музыку да верша Я. Купалы „А хто там ідзе“ і зборнік песьняў. Апрацоўваў беларускія мэлёдыі і літоўскі кампазытар Шымкус.

Усе гэтыя асобы кіравалі ў свой час беларускімі хорамі ў Вільні і Петраградзе.

Яшчэ шмат хто зьбіраў беларускія народныя песьні (мэлёдыі).

Вось чытаем, напрыклад, заяву Нік. Нік. Чуркіна, прысланую старшыні Бел. Пясьнёвай Камісіі ў Маскве:

„З 1911 г. па 1915 г. кожнае лета я быў камандзірован б. Віленскім Географічных Т-вам у паветы Віленскай губ. дзеля зьбіраньня народных песьняў (мэлёдыяў). За гэты час я сабраў мэлёдыяў каля 500. За кожную экскурсію я сабраныя песьні і справаздачу аб паездцы прадстаўляў у памянёнае Т-ва, якое хавала песьні ў Віленскім Музэі — архіве старасьветчыны. У часе эвакуацыі з прычыны вайны архіва (здаецца у Маскву) песьні былі таксама забраны. Дзе знаходзяцца цяпер песьні—мне невядома, але наглядчыкам музея ў мамэнт эвакуацыі быў Зьмітры Іванавіч Даўгапа. Ён цяпер у Менску, і пэўна, не адмовіцца даць паказаньні аб тым, дзе знаходзяцца памянутыя песьні. Прашу, калі гэта магчыма і карысна, прыняць крокі к вышуканьню іх“.

Мы застанавіліся над гэтым фактам дзеля таго, што 500 песьняў—гэта вялікі скарб для беларускай мэлёдыі. Гэтыя матар'ялы абавязкова трэба знайсьці.

Магчыма, што такім чынам ляжаць яшчэ нявыкарыстанымі сотні такіх матар'ялаў у розных навуковых установах і ў прыватных асоб.

За час вайны разьвіцьцё беларускай народнай песьні, як і беларускае культурнае адраджэньне наагул, спынілася.

Ад рэвалюцыі 1917 г. наша песьня зноў пайшла ўверх. З'арганізаваўся хор Тэраўскага, які нажыў сабе славу ў Беларусі. Тэраўскі за час працы запісаў некалькі сот (здаецца 500) мэлёдыяў, выдаў пару зборнікаў.

Зьбіраў у той час беларускія мэлёдыі і прафэсар Усьцюжанінаў, які жыў тады ў Менску.

Злажыў зборнік беларускіх песьняў і прафэсар Янчук у Маскве.

Пасьля Тэраўскага ў Менску працаваў над беларускай песьняй яшчэ і гр. Равенскі, які таксама меў свой хор, зьбіраў народныя мэлёдыі ў Случчыне (болей 200 нумароў) і выпусьціў невялічкі зборнік.

Вось у кароткіх словах гісторыя разьвіцьця беларускай песьні.

Даемо тут цікавы пагляд на беларускую песьню старшыні Бел. Пясьнёвай Камісіі ў Маскве Я. В. Прохарава, выказаны ім на паседжаньні камісіі пры этнографічнай асоцыяцыі „Гімн“ у Маскве;

„Беларускай песьні не пашанцавала, у той час, калі яе родныя сёстры—вялікаруская і ўкраінская песьня—маюць аграмадную літэратуру і масу сабраных матар'ялаў і спэцыяльных зборнікаў. Беларуская песьня бадай яшчэ зусім ня высьледавана, а якія ёсьць аб ёй працы, у большасьці далёкі ад грунтоўнасьці. Праўда ею цікавіліся многія, але з прычын малага ліку матар'ялаў у друку гэта зацікаўленасьць у большасьці выпадкаў таксама застаецца нездавальняючай.

Усе друкаваныя зборнікі беларускіх народных песьняў ня могуць даць поўнага і яснага зразуменьня аб тым, што такое беларуская песьня, бо аўтары іх або зусім ня былі музыкантамі, або мелі аб музыцы і яе законах вельмі слабае паняцьце.

Такім чынам, у гэтай галіне нас чакае вялікая і сложная праца па выясьненьню і ўстанаўленьню аснаўных тыпічных рысаў беларускай народнай песьні.

Наша Бел. Пясьнёвая Камісія павінна перагледзець усе істнуючыя аб гэтай справе пагляды і думкі, усебакова іх разважыць, адны прыняць, другія адкінуць і

Адказваючы на пытаньні ў справе бясчыннасьці ўраду ў сувязі з пераваротам фашыстаўскім у Баварыі, канцлер заявіў, што ўрад Нямеччыны не праявіў менш аўтарытэту, чым легальны баварскі ўрад. Аднак, каб легальны баварскі ўрад быў звалены, дык тады ўрад рэспублікі заняўся-б справай узвароту легальнага парадку ў Баварыі. Умяшаньне ў справы Саксоніі было выклікана тэрорыстычнымі актамі, закончыў канцлер.

У далейшай дыскусіі прадстаўнікі цэнтра і народнай партыі адабрылі палітыку Штрэзэмана. Старшыня міністраў Тюрынгіі, Крэліх, выступіў з закідамі з прычыны павядзеньня рэйхсвэру ў Тюрынгіі. Дыскусія яшчэ не закончылася.

Ваенныя паўнамоцнікі, назначаныя ў паасобныя краіны Нямеччыны з прычыны абвешчаньня ваеннага палажэньня, распачалі стасаваць яўны і самы жорсткі рэакцыйны тэрор. Ваенны камісар Саксоніі ген. Мюлер выдаліў з дзяржаўнае службы ўсіх урадоўцаў і паліцыянтаў, якія належаць да сацыялістычных партыяў. Ваенны камісар Тюрынгіі ген. Гаазэ забараніў усялякія сабраньні, а таксама ўсялякую сацыялістычную прапаганду. Падобныя-ж загады мае выдаць і ваенны камісар Усходніх Прусаў; гэтыя рэпрэсіі пойдуць яшчэ далей і будуць скіраваны проціў усялякай дзейнасьці опозыцыі, скіраванай проціў урадовых партыяў.

---

У Дрэздэне арыштаваны быўшы старшыня сацыялістычна-камуністычнага ўраду Саксоніі Зэйгнер.

---

У Могюнцыі і іншых гарадох Надрэніі адбываюцца вулічныя бaі паміж сэпаратыстамі і сацыялістамі.

## С. С. Р. Р.

Растоўская Рада арганізавала урачыстыя провады Будзённага, які выязджае ў Маскву. У часе гэтай урачыстасьці Будзённы сказаў прамову, у якой паміж іншым заявіў: „Выяжджаю да Масквы на пасаду памоцніка глаўнакамандуючага кавалерыяй. Але радасьць мая была-б яшчэ большая, каб гэтая урачыстасьць была зроблена з прычыны майго паходу на Бэрлін. Удзячнасьць да вас дакажу чынам, калі Заходняя Эўропа станецца радавая. Зьбліжаючыяся выпадкі не спадуць на нас зьнічэўку і радавая армія, магутная армія першай у сьвеце радавай рэспублікі прыдзе з дапамогай нямецкім работнікам.

## АНГЛІЯ.

Падрыхтоўка да выбараў у новы парлямэнт ідзе сьпешным тэмпам.

Робэрт Сэсыль сказаў выбарную прамову, у якой заявіў, што палажэньне ў Эўропе шмат пагоршылася, бо ўрад францускі трывае пры палітыцы, якая павінна прычыніцца да пагаршэньня сусьветных гаспадарчых адносінаў і дзеля гэтага магчымы разрыў паміж Англіяй і Францыяй.

---

Ангельская камуністычная партыя выдала выбарны маніфэст, у якім высоўвае гэткія пастуляты: барацьба проціў капіталістаў, канфіската прамысловых прадпрыемстваў, якія спынілі працу, і зямлі, якая знаходзіцца бяз ужытку, увядзеньне 6-ці гадзіннага дня працы; утрыманьне безработных коштам дзяржавы; утварэньне ўраду з прадстаўнікоў працоўных.

## БАУГАРЫЯ.

У часе выбараў у баўгарскі парлямэнт урадовая коаліцыя атрымала 201 мандатаў, лібэралы—7, народнікі і камуністы, якія выставілі супольныя сьпіскі, — 39 мандатаў. Новы парлямэнт зьбярэцца 1-га сьнежня.

## ТУРЦЫЯ.

У Турцыі распачалася забастоўка чыгуншчыкаў.

## Адозва сацыялістычнага інтэрнацыяналу.

Сэкрэтарыят Сацыялістычнага Інтэрнацыяналу разаслаў да ўсіх сацыялістычных партыяў цыркуляр, у якім зазначае цяжкое палажэньне, у якім знаходзіцца нямецкая работніцкая кляса па віне як францускага ўраду, так і нямецкай рэакцыі.

Сэкрэтарыят заклікае ўсе партыі да матар'яльнай дапамогі нямецкім і францускім сацыялістам, якія мусяць змагацца з вялікімі труднасьцямі ў барацьбе з рэакцыяй. Дапамога францускім сацыялістам дапаможа ёй правясьці сваіх паслоў у новы францускі парлямэнт, што будзе мець вялікае значэньне і для Нямеччыны.

## Канфэрэнцыя Малай Антанты.

У Белградзе 13 сьнежня адбудзецца канфэрэнцыя дзяржаў Малай Антанты. Абгаварывацца будзе загранічная сытуацыя і ўстанаўленьне цесных адносінаў з Саюзам Радавых Рэспублік.

## Канфэрэнцыя амбасадораў.

Канфэрэнцыя амбасадораў пастанавіла паведаміць Нямеччыну, што дзейнасьць міжсаюзнай камісіі для ваеннага кантролю над Нямеччынай распачнецца безадкладна. У справе кронпрынца прынята да ведама заява нямецкага ўраду, што кронпрынц зрокся правоў на трон і ня будзе мяшацца ў палітыку. Саюзныя ўрады засьцярагаюць сабе права для далейшых крокаў, якія акажуцца патрэбнымі пры далейшым разьвіцьці выпадкаў.

Як паведамляе „Kurjer Polski“, на канфэрэнцыі дайшло да вострага канфлікту паміж францускім і ангельскім пасламі ў справе санкцыяў.

---

Пуанкарэ выслаў да нямецкага ўраду ноту, у якой паведамляе аб пастанове канфэрэнцыі амбасадораў і радзіць Нямеччыне ня чыніць перашкодаў ваеннай кантрольнай камісіі ў яе дзейнасьці, бо ў праціўным выпадку саюзьнікі скарыстаюць з правоў, якія дае ім Вэрсальскі трактат.

---

Нямецкі ўрад рыхтуецца выслаць адказную ноту, у якой, прынцыпова згаджаючыся з пастановай канфэрэнцыі амбасадораў, зварочвае ўвагу на магчымасьць прыкрых інцыдэнтаў у выпадку ўзнаўленьня дзейнасьці ваеннай кантрольнай камісіі.

## У справе францускіх крэдытаў.

На апошнім паседжаньні ангельскага парлямэнту адзін з дэпутатаў запытаўся ў міністра фінансаў аб францускіх крэдытах для Польшчы, Румыніі і Югаславіі, празначаных на закупку ваенных матар'ялаў. Міністар адказаў, што запраўды французская палата дэпутатаў ухваліла гэткія крэдыты ў суме 800 мільёнаў франкаў, а ў прэсе зьявіліся весткі, што гэтая сума мае быць яшчэ павялічана. Тады адзін з лібэральных паслоў зьвярнуў увагу ўраду на тое, што калі Францыя мае магчымасьць пазычаць гэткія вялізарныя сумы на ўзбраеньне сваіх саюзьнікаў, дык таксама можна заплаціць і свае даўгі Англіі.

З другога боку і загранічная камісія францускага сэнату зацікавілася гэтымі крэдытамі і запрапанавала старшыні міністраў даць высьненьні ў гэтай справе.

---

падвясьці ў канцы-канцоў свайго роду аканчальны скутак".

З гэтага пункту Бел. Пясьнёвая Камісія і пачала сваю працу. Камісія пазнаёмілася з выпаўненьнем бел. песьняў хору Тэраўскага і разглядае ўсе вышаўшыя да гэтага часу зборнікі беларускіх песьняў.

Разам з гэтым Камісія прыступіла адразу да творчай працы. Ужо апрацоўваецца праект здаць у першую чаргу заказ на гарманізацыю 250 беларускіх песьняў. З гэтага ліку: 100 для школьнага зборніка, 75 для хора, 50 солё, дуэтаў і г. д. і 25 у перaлажэньне на музыку.

Праца ўжо ідзе поўным тэмпам:

Я. В. Прохараў ужо закончыў гарманізацыю 55 песьняў;

А. А. Аленін згарманізаваў 15 песьняў;

М. М. Іпалітаў-Іваноў—2 песьні;

М. І. Аладаў напісаў чатыры музычныя творы да вершаў беларускіх песьняроў.

Пры ўсім гэтым яшчэ робяцца новыя запісі беларускіх народных песьняў этнографа Сэрбава, украінскага кампазытара-этнаграфа Квітко, ў паветах Чарнігаўшчыны. Таксама Нар. Кам. Асьветы Беларусі мае на мэце наладзіць спэцыяльную экспэдыцыю, якая будзе зьбіраць нар. мэлёдыі на Беларусі.

Ужо апроцоўваецца плян чарговых выданьняў зборнікаў беларускіх песьняў. Да гэтых зборнікаў будуць дададзены артыкулы музычна-тэорытычнага характару аб беларускай музыкальнай творчасьці і стацьці этнографічна-лінгвістычнага характару.

Беларускай Пясьнёвай Камісіяй зьвернута таксама ўвага на беларускія музычныя інструмэнты. Галоўным чынам зацікавіліся цымбaламі. Мае быць з'арганізаваны спэцыяльны аркэстр з цымбалаў і іншых бел. народных інструмэнтаў.

Як відаць з усяго вышэй-сказанага, Беларуская Пясьнёвая Камісія зьяўляецца новай беларускай установай у Маскве. Гэта ўстанова, мы пэўны, дасьць у недалёкай будучыне багатыя плады. Можна спадзявацца, што да першага выпуску студыйцаў дзяржаўнай бел. тэатральнай студыяй у Маскве мы будзем мець багата-апрацованую беларускую песьню і беларускую музыку. Гэта будзе багатым дадаткам да беларускага маладога тэатру.

С. П.

# Агляд жыдоўскай прэсы.

*(Духі, якіх трудна выгнаць!—Небясьпечная ігра фашызму і рэвалюцыі.—Розгі і перадавая стража Эўропы. — Апошняе дрыганьне хьена-пястоўскага ўраду. — Ковенскі антысэмітызм, як польскі імпорт).*

Пасол Грюнбаум абгаварвае ў перадавым артыкуле ў „Najer Hajncie“ кракаўскія выпадкі, цьвердзячы, што:

„справа ня ў тым толькі хто нясе віну. Справа йдзе ні больш ні менш як аб істнаваньні Сойму, як аб самым прынцыпе парлямэнтарызму".

Далей лідэр „Жыдоўскага Кола“ абгаварвае розныя этапы барацьбы правага і левага лагераў.

Чым бліжэй было да консолідацыі дзяржавы, прызнаньня яе граніц, тым больш безадносным і наглым станавіўся правы лагер Сойму. Ён ужо ня хоча нясьці ніякіх ахвяраў. Яшчэ больш, пачаў шукаць пагрозу перад бальшавіцкім ценям. Карыстаючы з таго, што лявіцовая большасьць магла-б утварыцца толькі дзякуючы падтрыманьню нацыянальных меншасьцяў, накідаючы страх на ўвесь народ „духамі“ чужых нацыянальнасьцяў, якія зьяўляюцца ўнутранымі ворагамі Польшчы, даводзячы да найвышэйшага пункту ненавісьць да жыдоў, правая большасьць пачала ўсё мацней прыцiскаць левы лягер да жалезнага муру.

Гэтая-ж большасьць ставіць левыя групы перад дылемай: альбо поўнай капітуляцыі, застаючыся толькі ў ролі бязьсільнай апазыцыі, альбо растацца з кампрамісам парлямэнтарнага змаганьня і апэляваць да вуліцы".

Урэшце пасол Грюнбаум робіць гэткі вывад:

„У нас ня хочуць імкнуцца задалёка ані ў мінуўшчыну, ані ў будучыну. Уцякаюць перад „керэншчынай“, якая павінна прывясьці да бальшавіцкага перавароту, падкопваючы падставы парлямэнтарызму, абвяшчаючы панаваньне „чыста польскай большасьці“ і сувэрэннасьць „праўдзіва-польскага сумленьня“; ламаючы канстытуцыю і ўстанаўляючы права апэляцыі да вуліцы, ня бачаць, што гэтак робячы, выклікаюць „духі“, якія зьявіліся ў Кракаве і якія будзе трудна,—а можа ўжо і цяпер дужа трудна—выгнаць вон“.

Аб гэтым самым піша і д-р Тон:

„Ігра фашызму з аднэй стараны і рэвалюцыі з другой зьяўляецца вялікаю небясьпекаю. Маю прадчуцьце, што як правіца так і лявіца зробяць вялікую, годную кары памылку, думаючы, што кожная з іх ёсьць мацнейшая, чым гэта ёсьць у запраўднасьці. З кракаўскіх выпадкаў трэба было-б узяць навуку, што ў Польшчы істнуе толькі адзін шлях да ўрадаваньня: шлях угоды і кампрамісу, а не гераізму нажа.

... Сучасны мамэнт ёсьць мамэнтам вялікай небясьпекі для Польшчы. Пажадана, каб, прынамсі, гэтым разам запанаваў зімны розум над гарачымі пачуцьцямі“.

„Unzer Gedank", прыводзячы факт катаваньня пяцьдзесяці жыдоў у Лодзі, піша:

„У Сойме сядзяць паслы і спрачаюцца, а ў камісар'ятах ужываюцца розгі, як за часоў паншчыны. А мы-ж хочам быць пярэдняю стражай Эўропы, бар'ерам, які аддзяляе заходнюю культуру ад усходняга барбарства...

...Ці не вінавата ў гэтым выпадку агульная атмосфэра бяспраўя, антысэміцкая агітацыя, якая сыстэматычна праводзіцца ў субсыд'яванай прэсе"?

Пішучы аб рэпрэсіях, стасаваных праз Хьена-Пястоўскі ўрад „Unzer Folkscajtung“, канстатуе:

„У краі няма даверыя да ўлады. Няма большасьці ў Сойме, але ісьці на ўступкі ня хочуць. Дзеля гэтага апошнім спосабам зьяўляюцца павялічаныя рэпрэсіі.

Рэакцыя ня любіць гісторыі, хоць часта любіць аб ёй гаварыць. Кожны рэакціянэр пераконаны, што ён першы прыдумаў геніяльны спосаб панаваць пры помачы рэпрэсіяў.

Што-ж, хай папрабуюць. Калі знойдзецца ў краі хаця-б адзін галодны, якога накормяць рэпрэсіямі, дык тады рэакцыя пераможа“.

„Unzer Frajnd“ прыводзіць размову ковенскіх журналістаў з лектарам Ягелонскага Унівэрсытэту Гэрбачэўскім, які цяпер чытае лекцыі ў Ковенскім Унівэрсытэце. Гэрбачэўскі паміж іншым цьвердзіць, што

„прычынай антысэміцкіх выступленьняў зьяўляецца агітацыя ксяндзоў. Пераважна-ж антысэмітызм зьяўляецца імпортам з Польшчы“.

Па думцы Гэрбачэўскага:

„Жыды павінны выдаваць часопісь на літоўскай мове з мэтай праціўдзейнасьці інсынуацыям з боку літоўскіх хадэкаў".

М. Г.

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## ХРОНІКА.

18/XI г. г. ў Беларускім Грамадзянскім Сабраньні адбыўся агульны сход студэнтаў беларусаў унівэрсытэту Стэфана Баторага. Выбраны ўрад студэнцкага саюзу ў які ўвайшлі: старшыня ўраду І. Лабенец, яго намесьнік А. Зянюк, скарбнік Б. Туронак, сэкрэтар Т. Куніцкі і сябра Марцінчык. У рэвізыйную камісію выбраны: В. Тарашкевічыха, П. Трэмбовіч і Стэповіч. Ураду даручана апрацаваць дэталічны плян працы. Пакуль што намечана арганізацыя студэнцкіх гурткоў дзеля самаадукацыі, якія потым павінны стварыць сэмінарыю беларусазнаўства і ўтварэньне бібліятэкі, дзеля чаго ўхвалена зьвярнуцца да ўсіх установаў, а так сама і да прыватных асобаў з просьбай ахвяраваць кніжкі і журналы. Наагул сход прайшоў бадзёрна. Калі такі настрой у гэтай невялічкай грамадцы студэнтаў будзе трываць далей, то можам спадзявацца карыснай працы, як для іх саміх, так роўна і для Бацькаўшчыны. Кажам „невялічкай“ з тэй прычыны, што сабраўшыяся студэнты складалі ня больш, як 1/3 частку з усяго ліку студэнтаў беларусаў у Вільні. Няхай сорам і ганьба будзе тым, якія ня прышлі на першы арганізацыйны ў гэтым годзе сход.

Беларускае Грамадзянскае Сабраньне ў Вільні робіць крокі па арганізацыі беларускага хору. Кіраўніцтва хорам даручана грамадзяніну Антону Грыневічу, які ўжо прыступіў да апрацоўкі харавога матар'ялу. Харыстам будзе выдавацца пэнсія. Проба галасоў жадаючых працаваць у хоры адбываецца што

